Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 61 (112). Вільня, Субота 20 Жніўня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі.
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Дыплёматычная ігра.

Хто ўважна сачыў за апошнімі падзеямі ў міжнароднай палітыцы, дык заўважыў адну даволі цікавую зьяву. Ужо перад вядомым забойствам савецкага пасла Войкава, а тым больш пасьля гэтага забойства, кожнага трошкі азадачвалі вынікі гэтага трагічнага факту. Як з аднаго боку савецкага, так з другога боку польскага, была вялікая ахвота дайсьці да згоды, каб ня выклікаць канфлікту і аружнае вайны. Мала гэтага, у гэтым зусім здавалася-б, на першы пагляд, неадпаведным часе, вонкава чуем вялікую ахвоту як польскага ўраду, так і савецкага—жыць між сабой ня толькі ў дагэтуляшняй згодзе, але яшчэ гэтую згоду паглыбіць праз заключэньне трактату аб ненападаньні і гандлёвага дагавору. Выступленьні з прамовамі савецкіх правадыроў, прамова марш. Пілсудскага ў Калішы і загад польскага ўраду аб высяленьні з Польшчы некаторых расейскіх эмігрантаў, гавораць за тое, што вонкава як польскі, так савецкі ўрад, выказваюцца за мірнае і добрасуседзкае сужыцьцё. Зьяўляецца пытаньне, дзеля чаго наступіла такая зьмена ў адносінах між Польшчай і ССРР. і якое мае яно значэньне для Беларусаў? Каб адказаць на гэта пытаньне, трэба прыпомніць наступнае.

Ад пэўнага часу ў міжнароднай палітыцы можна бачыць змаганьне дзьвюх вялікіх дзяржаваў—Англіі з ССРР. Гэтае змаганьне ня ідзе безпасярэдня аружжам, але пры помачы дыплёматычных перагавораў. Англія хоча нахіліць усе вялікія эўрапэйскія дзяржавы да аднаго буржуазна-капіталістычнага фронту скіраванага проці Саветаў. Перадусім ангельскія палітыкі хочуць уцягнуць у свой саюз Нямеччыну, адну з наймагутнейшых сіл у Эўропе. Есьць ведама, калі-б Нямеччына згадзілася на такі саюз працісавецкі, дык не задарма, а за пэўныя канкрэтныя здабычы. Адным з галоўнейшых пастулятаў ёсьць справа Верхняй Сілезіі і справа паморскага калідора, якія абшары Нямеччына хоча далучыць назад да сваё дзяржавы. Дык бачым, што нямецкія варункі прыступленьня да працісавецкага саюзу зьяўляюцца згубнымі для Польшчы, бо рэалізуюцца коштам цяперашняй польскай тэрыторыі. Польшча ўсімі сіламі працістаўляецца гэткаму пляну: увесь час на міжнародным форуме вяла дыплёматычнае змаганьне з ім, а ў апошнія часы кінулася на новы спосаб абароны сваіх інтарэсаў. Вось гэтым новым спосабам і ёсьць гэная зьмена ў замежнай палітыцы Варшавы ў адносінах да Масквы. Польскі ўрад, радам сваіх выступленьняў і загадаў, пачаў выразную згодніцкую палітыку з савецкім урадам, маючы на мэце, гэтай дарогай, лепш бараніць свае інтарэсы на Захадзе. Польшча хоча паказаць Англіі і Нямеччыне, што калі працісавецкі саюз будзе заключаны коштам Польшчы, дык яна пойдзе на згоду з Саветамі.

Цяперашнія палітыкі Масквы, ёсьць ведама, баяцца саюзу буржуазных эўрапэйскіх дзяржаваў і затым ухапіліся за Польшч, як за апошнюю дошку ратунку і таксама выступаюць афіцыяльна за добрасуседзкія зносіны з польскім урадам. Доказам гэтага ёсьць прамовы савецкіх адказных дзеячоў у Маскве і апошнія выступленьні Масквы проці Радавае Беларусі. Кожнаму вядома, што польскаму ўраду не падабаецца беларуская праца ў Менску, бо яна стварае зусім непажаданы для Польшчы нахіл сярод жыхараў Заходняе Беларусі да Радавае Беларусі і ўзмацоўвае сільна беларускі рух у Заходняе Беларусі. Масква гэта добра разумее і затым, каб падабацца польскаму ўраду, маючы на мэце разьбіваць буржуазны працісавецкі саюз, павяла ў апошнія часы даволі вострую палітыку проці беларускасьці Менску. Рэзультатам палітыкі Масквы было зьмяшчэньне беззаконнае (бяз зьезду прадстаўнікоў кампартыі) тав. Адамовіча са становішча старшыні народных камісараў Савецкай Беларусі і назначэньне на яго месца нейкага Галадзеда, а таксама прысланьне ў Менск вядомага пагромшчыка беларускага руху Кнорына, які фактычна цяпер кіруе Савецкай Беларусяй, а Чарвякоў астаўлены толькі для формы. Мала гэтага, менскае Г. П. У. узмацавана камуністымі-Палякамі, бо на чале ўсяго саюзнага (маскоўскага) Г. П. У. па сьмерці Паляка Дзяржынскага астаўся Паляк Мянжынскі.

З усяго бачым, што дыплёматычная ігра між Маскоўскім і Варшаўскім урадам адбываецца коштам беларускага нацыянальнага руху. Пытаньне толькі, ці гэтая ігра прынясець карысьці для самых ігра ючых?! Ня трэба забывацца, што ў споры паміж Масквой і Варшавай рашучае значэньне павінен мець Беларускі Народ, які выразна ўжо выказаўся проці сваіх апякуноў і хоча нарэшце сам вырашаць аб сваей долі. Зьдзейсьненьне імкненьняў нашага Народу наступіць не праз Варшаву і не праз Маскву, а праз сілу арганізаваных сярмяжных гушчаў.

А. Замежны.

## Што дзеецца ў сьвеце?

### Сьвята нямецкай рэспублікі.

На 11 г. жніўня прыпадала сьвята нямецкай рэспублікі, як угодкі Вэймарскай канстытуцыі, якою кіруецца рэспубліка.

Па ўсей дзяржаве ўсякія ўстановы былі закрыты. Усюды ладзіліся на чэсьць рэспублікі ўрачыстасьці. Адбылося паседжаньне Райхстагу (сойму), прысутным быў на паседжаньні прэзыдэнт Гіндэнбург. Усюды былі вывешаны рэспубліканскія сьцягі, нават на вагонах і аўтабусах.

### Рэвалюцыя ў Партугаліі.

У Партугаліі, якая праславілася на ўвесь сьвет сваімі частымі рэвалюцыямі ды пераваротамі, гэтымі днямі ізноў адбылася завіруха сярод войска.

Кіраўнікі завірухі папаліся ў рукі ўраду, які высылае іх на выспу сьв. Тамаша. У ва ўсім краю запанаваў спакой.

Трэба зазначыць, што паўстаньні зьяўляюцца ў Партугаліі не з за якіх ідэйных імкненьняў, а проста, ад эгаістычных пабуджэньняў розных палітыканаў.

### Літоўскі прэм'ер аб літоўскіх адносінах.

Літоускі прэм'ер праф. Вальдэмарас у гутарцы з карэспандэнтам рыскае газэты сказаў: — Польшча ўдзяляе многа ўвагі літоўскім справам, з гэтых прычынаў там цяпер творыцца многа шуму. Але надарэмна. Лепей было-б каб Польшча праявіла ініцыятыву і зарабіла нам якую-колечы канкрэтную прапанову.

### Сакко і Ванцэцьці.

Ёсьць весткі быццам справу Сакко і Ванцэцьці перададуць на новы разгляд, новаму складу судзьдзяў.

### Падзеі ў Кітаі.

Армія Чанг-Кай-Шэка пабіта і адступае. Перамога асталася за Чанг-Тсо-Лінам, які пагражае Шанхаю і Нанкіну.

Ёсьць чуткі быццам Чанг-Кай-Шэк падаўся ў адстаўку, а з ім разам некалькі міністраў з яго ўраду. Некатарыя аддзелы войска перайшлі да Чанг-Тсо-Ліна.

А таксама падаюць газэты, што паміж Куомінтангам і камуністамі ў ханькоўскім урадзе здарыўся падзел, так што камуністы будуць дзействаваць на сваю ўласную руку, а Куомінтанг, правіца і лявіца, маюць аб'ядначца.

І гэтак сабе ўвесь час — валыняцца...

### У камуністычнай партыі.

У Маскве адбылася камуністычная канфэрэнцыя. На гэтай канфэрэнцыі паміж староннікамі Сталіна і Троцкага наступіла згода. Аднак-жа Троцкі пакінуў за сабою права падаваць крытыцы ўсякі ўчынак „сталінаўцаў", які ня будзе згаджацца з паглядам Троцкага.

## ДА ВЕДАМА ІНВАЛІДАЎ!

Найвышэйшы Трыбунал Адміністрацыйны дня 13.VI. с. г. пад № 3816/25 разглядаў справу інвалідаў, зарэгістраваных пры г. зв. францускай рэгістрацыі і вынес пастанову, што гэтая рэгістрацыя дае права інвалідам дамагацца рэнты інвалідзкай. У сувязі з гэтым усе інваліды, якія былі зарэгістраваны пры г. зв. францускай рэгістрацыі і дагэтуль не атрымалі рэнты, могуць на нова пачаць справу ў адпаведным „P. K. U." аб прызнаньні рэнты, паклікаючыся на пастанову найвышэйшага трыбуналу.

Сэкрэтарыят
Белар. Пас. Клюбу.

# Дэклярацыя

**беларускага раднага сэн. Багдановіча на паседжаньні Мeставай Рады места Вільні II г. жніўня.**

Шаноўныя Паны!

Будучы сам Беларусам, у гэтай Радзе педусім я зьяўляюся адзіным прадстаўніком з беларускага нацыянальнага сьпіску. Беларускі Народ разам з Літоўскім народам зьяўляецца аборыгэнтам (першым жыхаром) гэтага места і ўсяго краю. Аб гэтым сьведчаць памяткі, назовы вуліц, мясцовасьцяў, гмахаў і г. д. пачынаючы ад Вострай, іначай Рускай (Беларускай, гэтак называліся нашы продкі) брамы, якая месьцілася на Рускім ці на Вострым канцы м. Вільні. Каранаваньне польскаю каронаю Вострабрамскага абраза Найсьв. Маткі Боскай, які яшчэ за Літоўска-Беларускіх часоў увянчаў гэтаю „рускую" браму, ёсьць яскравым сымболем нашага лёсу, бо гістарычныя варункі не стварылі нас гаспадарамі гэтага места і гэтага краю: сталі мы ў сваім краі на палажэньні нацыянальных меншасьцяў.

Ня дзеля таго гэта ўсё ўспамінаю паном, каб жаліцца на свой гістарычны лёс, так сама ня дзеля таго гавару аб тым, каб толькі на гэтых гістарычных успамінах грунтаваць сваё права на роўны з іншымі народнасьцямі ўдзел у грамадзкім і гаспадарчым жыцьці места. Мы Беларусы зьяўляемся рэалістамі ў такой меры, каб не перавышаць значэньня ў рэальным жыцьці асноваў гістарычнага, а нават і юрыдычнага права. Дзеля гэтага лічым мацнейшаю апораю адраджэнскі рух Беларускага Народу, які расьце і ўмацняецца. А знача ўспомніў тыя асновы гістарычнага права выключна дзеля таго, каб паставіць іх насупроць прэтэнзіяў іншых народнасьцяў, якія імкнуцца да пануючага палажэньня ў меставым самаўрадзе.

Мы стаімо выключна на грунце поўнага роўнаўпраўненьня ўсіх народнасьцяў і гэтам прынцыпам будзем кіравацца ў нашаў дзейнасьці ў самаўрадзе места.

Я выбраны ня толькі галасамі Беларусаў, але-ж і Расейцаў—грамадзян места Вільні, з якімі мелі мы супольны Беларуска-Расейскі Блёк. Некалькі тысяч грамадзян расейскай нацыянальнасьці бязумоўна маюць права на пэўны ўдзел у эканамічна-гаспадарчым жыцьці места, але-ж ня маюць іншага прадстаўніка сваей народнасьці ў гэтай Радзе. Дзеля гэтага лічу за свой няўхільны абавязак бараніць інтарэсы таксама і грамадзян места Вільні расейскай нацыянальнасьці. Гэты падвойны абавязак тым балей ня лічу для сябе цяжкім, бо сацыяльнае палажэньне тэй і другой часткі жыхарства места зусім ня рожняцца за малымі вельмі нязначнымі выняткамі. Абодва народы знаходзяцца ў надта цяжкіх эканамічных варунках і калі не выключна, дык у пераважнай частцы абодва народы зьяўляюцца пралетарыятам у поўным значэньні гэтага слова, пры гэтым мы не адрожніваем пралетарыяту г. зв. інтэлігенцыі ад пралетарыяту фізычнай працы. А дзеля гэтага азначаем нашую гаспадарча-эканамічную праграму ў прышлай працы Рады ня інaчай як імкненьнем да абароны працоўнае клясы незаможніх (беднату). Нашымі імкнен нямі ёсьць:

1) Аздараўленьне меставай гаспадаркі.

2) Зьмяншэньне падаткавых цяжараў для незаможняе часткі жыхарства.

3) Аблягчэньне выкупу на ўласнасьць чыншовых грунтаў, якія знаходяцца пад прыватнымі будынкамі.

4) Правядзеньне мерапрыемстваў мэтай палепшаньня жыцьця ваколіцаў места.

5) Зьмяншэньне безрабоцьця.

6) Роўнаўпраўненьне народнасьцяў пры прыняцьці да працы і ўраду і прадпрыемстваў меставага самаўраду.

7) Разьвіцьцё будаўніцтва мэтай патаненьня і палепшаньня памешканьняў.

8) Асыгнаваньне грошай на:

а) культурныя патрэбы меставага жыхарства,

б) беларускія і расейскія школы, апекі і дабрадзейнасьці,

ц) дапамогі безработным і інвалідам,

д) на арганізацыю „Каплі Малака" для бедных дзяцей,

е) залаженьне бязплатных амбулянсаў (лякарскіх) для незаможнага (беднага) жыхарства.

З гэтаю праграмаю выступаю ў Радзе, як адзіны Беларус, які выбраны па нацыянальнаму сьпіску і як паўнамоцны прадстаўнік грамадзян расейскай народнасьці на моцы дагавору Беларуска Расейскага Выбарчага Блёку.

# Пісьмо ў Рэдакцыю.

Мы ніжэйпадпісаныя сяляне вёскі Бурачкі, Грыцевіцкой воласьці, Нясьвіскага пав., гэтым просім паважаную рэдакцыю „Сялян. Нівы" не адмовіцца і надрукаваць у сваей газэце гэтых нэкалькі слоў, аб той крыўдзе, якую мы цярпім дзякуючы аднастароннасьці і несправядлівасьці зямельнага камісара, Нясьвіскага павету. Справа ў тым, што наша вёска з 1923 году пераходзіць на хутары. Пераходзіць і ніяк няможа перайсьці, бо земскі камісар вядзе ўсю гэту акцыю гэтак сонліва, нядбала, што папраўдзе трэба нечалавечай цярплівасьці, каб маўчаць. Яго аднастароннасьць вызказываецца на кожным кроку. Нават падзяліць тыя 35 гэкт. пожнеў, якія нам далі, як прырэзку да нашай зямлі, паміж беззямельнымі і малазямельнымі, так, каб не пасеяць сярод нас сварак, калатні,—ён ня змог.

З усіх малазямельных і беззямельных сялян нашай вёскі, земскі камісар чаму-то выббраў толькі 17 асоб, мусіць лепшых за нас, а з гэтых 17, выбраў 4 асобы самых „найлепшых", якім даў па 4,80 гэкт., рэшту падзяліў між 17 чалавек, астальным-жа нічога не дасталася. І вось за гэта ў нас паўсталі, штодзенныя сваркі і лаянкі. Сусед на суседа глядзіць як на ваўка. Прыяцелі зрабіліся ворагамі на ўсё жыцьцё. Неяк прыкра і крыўдна глядзець, калі адзін бядняк накосіць сёлята 10-15 вазоў сена, а другі такі-ж самы, а мо' яшчэ і горшы, накосіць воз, два.

Шмат, хто з нас ужо разы па тры, чатыры падавалі просьбы да камісара аб прырэзцы зямлі, але адказу ніхто з іх ні на адну сваю просьбу не атрымаў. Калі ў траўні гэтага году, нашы паўнамоцнікі зьвярнуліся яшчэ раз да зямельнага камісара з просьбай, каб азначаная вышэй прырэзка зямлі была падзелена паміж усімі малазямельнымі і бяззямельнымі пропорцыянальна і ці будзе нарэшце закончана камасацыя нашых зямель, дык камісар адказаў гэтак: „Прырэзку да вашай зямлі атрымаў я, а я каму хачу, таму і дам, гэта ня вашае дзела. А хто, будзе працівіцца маім загадам, дык для таго знойдуцца краты; комасацыю закончу ў скорым часе". І першае, што можна апынуцца за кратамі, мы дамо веры, але што ў скорым часе закончыцца камасацыя (пераход на хутары), мы ня верым, бо чуем гэта ўжо 999 разоў.

Такім чынам зямельны камісар, дзякуючы сваім капрысам ці фантазіі, пасеяў сярод нас ненавісьць, а адкладам камасацыі наносіць нам вялікія матар'яльня страты: будынкі гніюць, поле пустошыцца, лубіну ня сеюць—ураджаі слабыя.

Нам простым сялянам здаецца, што натравіць людзей і спакойна глядзець, як яны выбіваюць адзін аднаму зубы, гэта—нягодны ўчынак. Просім паваж. рэдакцыю, даць нам параду, куды зьвярнуцца, каб прырэзка, была перароблена пановаму, прапорцыянальна „а таксама куды паскардзіцца на камісара на яго незаконныя дзеяньні і безпастаўныя адкладаньнем камасацыі. У Горадз. Акружную Земскую Камісію мы ўжо скардзіліся, але адказу таксама няма.

Далей ідуць дваццаць подпісаў.

**Ад рэдакцыі**: у гэтай справе папрабуйце яшчэ раз зьвярнуцца да акруговае зямельнае камісіі. Калі-ж ня будзе адказу, дык падрабязна апішыце справу і падайце заяву Беларускаму Пасольскаму Клюбу ў Сойме, (можна цераз нашу рэдакцыю). Пасольскі Клюб зробіць адпаведныя загады ад сябе. Але-ж наперад можна сказаць, што пасьпеху ад усяе гэтае пісаніны спадзявацца ня трэба, бо як відзім з вашага пісьма, дык зямельны камісар дапяў сваей мэты. А мэта яго, як вы і самыя пішаце, гэта пасварыць паміж сабою сялян, а гэтым самым разьбіць сялянскае адзінства. Дзеля гэтага самага неразумна той робіць, хто з сялян гневаецца на селяніна. Гэты гнеў павінен быць скірваны на таго,хто разьбівае вашае адзінства і крыўдзіць вас. Не гледзячы на ніякія штукі зямельнага камісара сялянства павінна між сабою трымацца арганізавана.

---

Вынаграджэньня за гэтыя сэрвітуты вызначаюцца на падставе ацэнкі вартасьці ліквідаваных сэрвітутаў і выдзеленых ужыткаў згодна арт. 41 (п. 3).

### Скарочанае паступаньне.

*Арт. 57.* У выпадках, калі ліквідацыя сэрвітутаў ці падзел супольна карыстаных групаў зьяўляецца нязвычайна цяжкі з прычыны вялікае лічбы ўпраўненых асобаў, ці калі трэба пасьпешна выканаці нейкую акцыю направы зямельнага ўпарадкаваньня (камасацыя, парцэляцыя і г. д.), у такіх выпадках можа быць тасаваны скарочанае паступаньне справы ліквідацыі сэрвітутаў (п. 1).

Гэтае скарачэньне адносіцца да ўстанаўленьня падставаў ацэнкі сэрвітутавых карыстаньняў на аснове нормаў, якія апошнімі часамі тасаваліся ў часе дагаворнай (ў згодзе старон) ліквідацыі сэрвітутаў і вызначэньня спосабу правядзеньня гэтакай ацэнкі, а таксама адносна спраўджэньня дакумантаў і правядзеньня землямерных работаў, якія праводзяцца пры нармальным ходзе ліквід., замены ды асабістых паведамленьняў адпаведнымі абвесткамі (п. 2).

Пры скарочаным паступаньні (ходзе) абавязкі зямельных камісараў, іх заступнікаў, дэлегатаў апр. зям. урадаў, павятовых зямельных урадаў і ацэначных сэрвітутных камісіяў будзе выконваці вызначаны Міністрам Зям. рэформаў сэрвітутны камісар пры дапамозе зям. камісараў і падкамісараў вызначаных і незалежных ад мясцовых павятовых і акруговых зямельных урадаў; абавязкі акр. зям. ураду аб якіх гаворыцца ў арт. 8, 28, 45, 51 і 59 выконвае сэрвітутны камісар, а рэшту абавязкаў — спэцыяльны дэлегат мін. зям. рэформаў. Жалабы на пастановы сэрвітутнага камісара і зямельных камісараў ды падкамісараў падаюцца дэлегату мін. зям. рэформаў і галоўнай зямельнай камісіі (п. 3).

Абшар, да якога будзе тасавацца скарочаны ход ліквідацыі і вымяр скарочаны ня будзе вызначацца і абвяшчацца ў Дзенніку Уставаў Мін. Зям. рэформаў (п. 4).

### Кошты.

*Арт. 58.* Зямельны Камісар за выкананьне праектаў і ўсякіх коштаў прымусовае ліквідацыі будзе браць вызначаную Акр. Зям. Урадам плату. Разьмер гэтае платы, спосаб яе ўзысканьня, крэдытны дагавор і дагавор залічкі пакрыцьця зямельнымі ўрадамі коштаў выданых на спарадкаваньне землямерскіх дакумантаў пры дагаворным паступаньні, ды высокасьць платы за ўпарадкаваньне тых дакумантаў зямельнымі ўрадамі, коштам старон вызначыць распараджэньне Мін. Зям. рэформаў у паразуменьні з Міністрам Скарбу. Аплата коштаў можа быць закрэдытавана і залічкова пакрыта зямельным урадам на час ня больш, як 5 гадоў (п. 1).

Вышэй зазначаныя аплаты коштаў і пры дагаворнай ліквідацыі дае старана, якую на гэта абавязвае дагавор; калі-ж у дагаворы гэтакага забавязаньня няма ці пры прымусовай ліквідацыі — аплаты коштаў паносяць староны па палове (п. 2.)

У часе прац на месцы ў сувязі з ліквідаваць староны абавязаны на кожны заклік зямельнага камісара выконваці работы ў натуры; характар тых работаў выкажа распараджэньне Мін. Зям. Рэф. (п. 3).

Калі некаторыя асобы будуць ухіляцца ад тых работаў, дык за работу будзе плаціць нанятым работнікам Зямельны Ўрад, а пасьля патрачаныя грошы адміністрацыйным парадкам узыскваe з тых асобаў, якія ўхіліліся ад работы, узысквае тыя грошы як бязспорную скарбовую належнасьць. Не адносіцца гэта да праўных заступнікаў, якія выступаюць у характары старон ад імя дзяржаўнае ўлады (п. 4).

### Пераходныя прыпіскі.

*Adm. 59.* Пастановы гэтага распараджэньня павінны тасавацца таксама і да тых справаў ліквідацыі сэрвітутаў, якія распачаліся перад апублікаваньнем гэтага распараджэньня, калі няма яшчэ зацьвярджаючага рашэньня Акруговае Зямельнае Камісіі; але ўсе праўна дакананыя і згодныя з гэтымі правіламі дзействы і ўсякія дагаворы абязваюць і ў далейшым паступаньні справы.

### Абавязуючая сіла распараджэньня.

*Арт. 60.* Гэтае распараджэньне абавязвае ў ваяводзтвах: Валынскім, Палескім, Навагрудзкім і Віленскім і ў паветах: Гарадзенскім, Ваўкавыскім, Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім Беластоцкага ваяводзтва.

*Арт. 61.* Распараджэньне гэтае ўходзіць у сілу за 14 дзён ад моманту абвяшчэньня і адначасна трацяць сілу ўсе правілы адносна ліквідацыі сэрвітутаў, акрамя правілаў уставы з 1922 г. (Dz. Ustaw Nr. 10 poz. 65) і правілаў распараджэньня Рады Міністраў з 26-га ліпня 1923 г. (Dz. Ustaw Nr. 58 poz. 613).

Пастановы гэтага распараджэньня зусім не нарушаюць юрыдычных правілаў, якія належаць да судовых справаў у спрэчках адносна доказу самага істнаваньня сэрвітутных праваў.

*Арт. 62.* Выкананьне гэтага распараджэньня даручаецца Міністру Зямельных рэформаў у паразуменьні з Міністрам Справядлівасьці.

Канчатак.

---

*Ніколі не зьністажай газэты, прачытаўшы дай яе суседу!*

# Ад Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры.

Ужо ў працягу некалькі гадоў беларускае сялянства складае дэклярацыі з дамаганьнем ад ураду роднае беларускае школы для сваіх дзетак. Кожны год дэклярацыі не давалі ніякае карысьці, бо ўрад ня выконваў сваіх законаў і дамаганьне нашага народу ня браў пад увагу. Ня гледзячы на гэта наш народ пасьля кожнае сваей няўдачы неяк яшчэ болей напружваўся і ў наступныя разы яшчэ ў вялікшай колькасьці падаваў ураду дэклярацыі на родную школу. Цяпер вось ізноў надходзіць пара, бо ізноў распачынаецца школьны год. Ізноў, як у папярэднія гады, мы павінны яшчэ з большым энтузіязмам узяцца за справу і яшчэ энэргічней дамагацца таго, што нам належыцца па закону.

Няўдачы не павінны нас пужаць. Навучаныя папярэднім змаганьнем, у гэтым годзе мы павінны выказаць сваю запраўдную волю, свае жаданьні.

Дзеля гэтага трэба: у тых вёсках, дзе яшчэ ні разу не падаваліся дэклярацыі з дамаганьнем роднае школы, павінна быць гэтакія паданы, згодна ніжэй паданых інструкцыяў. У тых вёсках, дзе былі паданы дэклярацыі, але-ж з якіхколечы повадаў былі гэтакія ўняважняны, трэба ізноў падаць новыя дэклярацыі. Тыя вёскі, якія ня маюць ніякага адказу, павінны даведацца ў школьнага інспэктара аб лёсе сваіх дэклярацыяў і дамагацца каб родная школа была адчынена.

Аб усіх перашкодах на шляху дамаганьня роднае школы і змаганьня за яе здабыцьцё трэба пісаць заявы ў Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры. Інстытут будзе даваць рожныя парады, а на крыўды і надужыцьці ўладаў будзе падаваць жалабы вышэйшым уладам пры дапамозе Беларускага Пасольскага Клюбу.

# Як дамагацца беларускае ўрадавае школы?

## Практычныя рады

**А. Што павінен зрабіць кожны бацька Беларус, матка, ці апякун, якія маюць дзяцей у школьным узросьце.**

1. Кожны бацька, матка, ці апякун павінны дбаць, каб іх дзеці вучыліся ў сваей роднай беларускай школе.

2. Кожны Беларус павінен выкарыстаць свае права дамагацца беларускай школы для сваіх дзяцей.

3. Кожны бацька, матка ці апякун павінны напісаць дэклярацыю аб тым, што жадаюць, каб іх дзеці вучыліся ў роднай беларускай мове, абавязкава пайсьці ў гміну, заверыць там свой подпіс і праз паўнамоцніка пад расьпіску гэту дэклярацыю здаць Школьнаму Інспэктару да 31 сьнежня (г. з. декабря) гэтага 1927 г.

**Увага:** Заверыць дэклярацыю можа, апроч гміны, яшчэ міравы судзьдзя, натарыус, староства. Заверка на дэклярацыі подпісу солтысам, ці сьвяшчэньнікам, ці ксяндзом, ці вучыцелем, ці кім іншым ня будзе мець ніякай сілы, і дэклярацыя забракуецца.

4. Дэкляроцыю трэба падпісваць у прысутнасьці войта.

5. Калі бацька, ці матка, ці апякун няпісьменны, то трэба прасіць пісьменнага чалавека, каб у прысутнасьці войта расьпісаўся, як за няпісьменнага бацьку, і войт заверыць ужо гэты подпіс.

**Увага:** Калі ёсьць няпісьменны бацька, а матка пісьменная, то матка, ці дзіця ня можа падпісвацца на дэкляроцыі за бацьку: трэба, каб падпісаўся хто іншы і дарослы.

6. Войт ня мае права адмовіцца ад заверкі подпісу.

**Увага:** 1) Калі войт адмовіцца пасьведчыць подпіс, то зараз-жа трэба аб гэтым паведаміць Бел. Інстытут Гаспадаркі і Культуры.

2) Заверкі подпісаў у гміне ня трэба адкладаваць на апошнія дні, бо войт ня ўсьпее пасьведчыць усіх подпісаў да 31 сьнежня.

7. Толькі тады адчыніцца беларуская ўрадовая школа або ператорыцца істнуючая польская школа ў беларускую, калі бацькі з аднаго школьнага вокругу пададуць Школьнаму Інспэктару як можна больш дэкляроцыяў, а прынамсі ня меньш, як на 40 вучн., што хочуць, каб іх дзеці вучыліся ў беларускай мове.

8. Калі куратар на дэкляроцыі не адчыніць беларускай школы, або не ператорыць істнуючай польскай школы ў беларускую, то бацькі павінны скардзіцца Міністру Асьветы.

**Б. Што павінен зрабіць паўнамоцнік, якога бацькі выбяруць скласьці Школьнаму Інспэктару дэкляроцыі.**

1. Запісаць на асобным лісьце імёны і прозьвішчы бацькоў і апякуноў, імёны іх дзяцей, напісаць паперу да Школьнага Інспэктара, асабіста па сьпіску здаць у Інспактарыят дэкляроцыі да 31-га сьнежня (декабря) гэтага году; узяць ад Інспэктарыяту пакрітаваньне на сьпіску бацькоў, сьпіс з пакрітаваньнем хаваць у сябе, а копію прысдаць у Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры (Вільня, Завальная 6—5).

**В. У якой мове пішыцца і запаўняецца форма дэкляроцыі.**

1. Дэкляроцыю трэба пісаць або пабеларуску, або папольску. Калі дэкляроцыя будзе напісана парасейску, то Інспэктар можа забракаваць.

У форме дэкляроцыі трэба напісаць: імя і прозьвішча бацькі ці маткі, ці апякуна, назоў вёскі, гміны, павету, імёны дзяцей. Непатрэбныя словы ў дэкляроцыі закрэсьліць.

**Г. Як павінна дапамагчы наагул беларускае грамадзянства, каб для сваіх дзяцей мець сваю родную беларускую школу.**

1. У тым школьным вокрузе (абводзе), дзе няма ніякай школы, Беларусы павінны дамагацца, каб была адчынена беларуская школа; а дзе істнуе ўжо польская школа, каб яна ператварылася ў беларускую.

2. Кожны пісьменны або больш сьвядомы грамадзянін павінны растлумачыць няпісьменнаму бацьку ўставу аб арганізацыі школьніцтва ад 31. VII. 1924 г., а таксама распараджэньні Міністра Асьветы ад 7. I. 1925 г., памагчы напісаць дэкляроцыю, старацца, каб дэкляроцыяў было пададзена як можна больш, сьлядзіць, каб дэкляроцыі былі завераны гмінаю і паданы Інспэктару да 31 сьнежня.

3. Калі хто будзе адмаўляць ці застрашваць тых бацькоў, якія на падставе закону і распараджэньня Міністра Асьветы будуць падаваць Інспэктару дэкляроцыі, каб іх дзяцей вучылі ў беларускай мове, таго трэба пацягнуць да судовай адказнасьці, як за баламуцтва грамадзян.

4. Калі навет ёсьць у вёсцы прыватная беларуская школа—усё роўна трэба дамагацца ўрадовай беларускай школы.

**Д. Форма паперы, якую піша паўнамоцнік і перадае разам з дэкляроцыямі Школьнаму Інспэктару.**

**Пану Школьнаму Інспэктару.**

у горадзе . . . . . . . . .
Паўнамоцніка жыхароў вёскі . . . .
. . . . воласьці . . . . . павету
(прозьвішча і імя) . . . . . . . .

Апіраючыся на вусным даручэньні бацькоў дзяцей у школьным веку, гэтым маю гонар пераслаць Інспэктарату . . . . . штук школьных дэкляроцыяў, на . . . . дзяцей, у справе ўвядзеньня беларускай мовы, як выкладовай у школе ў вёсцы . . . , . . . . . воласьці (або ў школе, якая мае быць заложана у вёсцы . . . . . , . . . . . вол.).

Аб выніках спраўджаньня дэкляроцыяў і аб аканчальнай пастанове пана Інспэктара, ветліва прашу паведаміць бацькоў праз мяне, як паўнамоцніка.

Подпіс:
Паўнамоцнік . . . . . . . . .
Дн . . . . . . . 192 . . г.

**Е. Форма сьпіску бацькоў, якія праз паўнамоцніка падалі дэкляроцыі Школьнаму Інспэктару аб навучаньні сваіх дзяцей у беларускай мове.**

**СЬПІС.**

Грамадзян вёскі . . . . , гміны . . . . павету . . . . . . , якія, на падставе распараджэньня Мін. Рэлігійных Спраў і Публічнай Асьветы ад 7. I. 1915 г. склалі Школьнаму Інспэктару . . . дэкляроцыі аб жаданьні навучаньня дзяцей у роднай беларускай мове і сьпіс дзяцей школьнага ўзросту.

| | Імя і прозьвішча бацькі, маткі, ці праўнага апякуна | Імёны дзяцей, пададз. у дэкляр. |
|---|---|---|
| 1 | | |
| 2 | | |
| 3 | | |
| 4 | | |
| 5 | | |
| 6 | | |

БАЦЬКІ! падавайце, інспэктару, як можна, больш дэкляроцыяў аб навучаньні вашых дзетак у беларускай мове.

Школьны век дзіцяці лічыцца ад 7 гадоў без 4-х месяцаў да 14 гадоў і 4-х месяцаў.

ГРАМАДЗЯНЕ! дамагайцеся аб ператвараньні польскіх школаў у беларускія.

Формы дэкляроцыяў і інструкцыі можна атрымаць у Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры (Вільня, Завальная 6—5).

**Форма дэкляроцыі**

# ДЭКЛЯРАЦЫЯ.

*Я ніжэй падпісаны(ая)* ______________ *грамадзянін(ка) Польскае Рэчыпаспалітае, беларускае нацыянальнасьці, жыхар* ______________ *гміны* ______________
(імя і прозьвішча) (назоу вескі, места) (назоу гміны)

*павету* ______________ *як бацька—маці—праўны апякун дзіцяці — дзяцей — у школьным веку.*
(назоу павету)

*1.* ______________ (імя дзіцяці)
*2.* ______________ (імя дзіцяці)
*3.* ______________ (імя дзіцяці)
*4.* ______________ (імя дзіцяці)

*на падставе артыкулу з уставу з 31 ліпня 1924 г., зьмяшчаючага некаторыя пастановы аб арганізацыі школьніцтва (Dz. U. R. P. Nr 79 poz. 766), жадаю ўвядзеньня ў істнуючую—маючую адкрыцца публічную народную школу ў* ______________ *беларускае выкладовае мовы.*
(назоу вескі, места)

*Дня* ______________ *192* ____ *г.*

______________
(уласнаручны подпіс)

**Да Пана Школьнага Інспэктара**

*у* ______________
(назоу места)

УВАГА. У тэксце дэкляроцыі непатрэбныя словы закрэсьліць.

